# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

Viestki j Paviedamleńni

Электронны адрас: viestki@mail.com
P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 3 (637)
Сакавік 2019 г.


## Віншуем нашых сяброў і прыхільнікаў са 101-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**




# Беларускія могілкі ў сьвеце

*(альбом-даведнік)*

**Дарагія суродзічы!**

Рыхтуецца да выданьня ўнікальны альбом-даведнік "Беларускія могілкі ў свеце", у якім будуць утрымліваецца зьвесткі пра беларускія могільнікі і паасобныя пахаваньні ў 12 краінах сьвету (Аўстралія, Бэльгія, Вялікабрытанія, Грэцыя, ЗША, Італія, Канада, Нямеччына, Польшча, Францыя, Чэхія, Швэцыя). У альбоме будуць прадстаўленыя вядомыя сёньня месцы пахаваньня замежных беларусаў ад пачатку XX ст. Будуць пададзеныя зьвесткі як пра цэлыя беларускія могільнікі, гэтак і пра раскіданыя па іншых могільніках беларускія магілы.

Выданне альбома-даведніка падтрымоўваюць Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк) і Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква.

Друк альбома (каля 700 каляровых старонак вялікага фармату) патрабуе значных грашовых выдаткаў. Таму мы — укладальнікі Натальля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч — зьвяртаемся да ўсіх беларусаў, неабыякавых да захаваньня памяці пра суродзічаў на Захадзе, з просьбаю падтрымаць гэты праект.

Падтрымайце ўнікальнае выданьне!

Ахвяраваньні можна складаць на імя дырэктара БІНіМу др. Вітаўта Кіпеля.

***Dr. Vitaut Kipel***
***330 Park Street,***
***HAWORTH, NJ, 07641***

альбо на імя свае Парафіі БАПЦ з пазнакаю:
***"To the publishing "Belarusan Cemeteries in the West"***



# Лютаўскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 9 лютага 2019 году, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў лютаўскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня сп. Віталь Зайка распавёў пра бліжэйшыя імпрэзы арганізацыі ўлучна з наступным сходам, традыцыйным абрадам Гуканьня вясны і сьвяткаваньнем Дня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі – Дня Волі ў сакавіку.

Затым у рамках сэмінару-інфармаваньня грамады па вучобе і працы ў ЗША прайшлі прэзэнтацыі шэрагу выступоўцаў па гэтай тэматыцы.

Першай выступіла сп-ня Марыя Жыновіч, што працуе ў юрыдычнай сфэры. Яна распавяла пра юрыдычную адукацыю ў ЗША і яе асаблівасьці, пра крокі, якія чалавек зь Беларусі мусіць зрабіць, каб падрыхтавацца да набыцьця юрыдычнай адукацыі ў Амэрыцы. Навучаньне ў юрыдычнай школе (Law school) звычайна доўжыцца тры гады, але ёсьць шляхі, каб скараціць гэты тэрмін. “Звычайна ў юрыдычную школу, гэта значыць, курс пры каледжы або ўнівэрсытэце, што рыхтуе спэцыялістаў у галіне юрыспрудэнцыі, можна паступіць маючы мастэр-ступень у любой сфэры, ад біялёгіі да псыхалёгіі. Затым будзе пэрыяд інтэнсіўнай вучобы, калі вам будуць ламаць псыхіку, мяняць мэнталітэт, які адрозьнівае звычайнага чалавека ад лоера. Разгляд юрыдычнай навукі ня мае нічога супольнага са здаровым сэнсам, у галоўны крытэр выводзіцца дагледзець працэс юрыдычнага разгляду і захаваць кожны пункт і літару прававых нормаў”. Марыя перш вучылася па спэцыяльнасьці сацыялёгія і палітычныя навукі, скончыла Хантар-каледж. Потым паступіла ў Юрыдычную школу Кардоза пры Ешыва-ўнівэрсытэце. Затым яна працавала ў непрыбытковых арганізацыях і ў сямейным судзе. “Юрыдычныя дыплёмы з замежжа звычайна не прызнаюцца. Каб атрымаць прафэсію юрыста, неабавязкава канчаць Джон Джэй-Каледж крымінальнай юстыцыі, або Гарвардзкую юрыдычную школу. Ёсьць карацейшыя і таньнейшыя шляхі. Сярод іх ступень LLM, мастар-ступень права, на якую трэба вучыцца адзін год, а затым чалавек мае магчымасьць, здаўшы іспыты й атрымаўшы ліцэнзію, практыкаваць права і мець аснову для прафэсійнага і кар’ернага росту. ”Для пасады паралігала юрыдычная адукацыя неабавязковая.

Затым сп-ня Жыновіч адказала на пытаньні прысутных, сярод якіх былі пытаньні пра тое, ці вывучаюць на юрыдычных спэцыяльнасьцях кнігу “Амэрыканская трагедыя” Т. Драйзэра (не), ці перашкаджае ў працы наяўнасьць замежнага акцэнту (залежыць ад сытуацыі), ці пераводзяцца крэдыты з дыплёмаў іншых краінаў (звычайна не), пра LLM, пра іміграцыйнае права, і як выбраць сабе добрага адваката (пастухаць, паглядзець, ці не хвалько). Прысутны ў залі сп. Віталь Крэмез дадаў, што ў NYU ёсьць праграма падрыхтоўкі кібэр-адвакатаў, там неабавязкава праходзіць курсы юрыдычных прадметаў, ёсьць свая спэцыфіка, а зацікаўленыя могуць зьвярнуцца да яго па дэталі.

Затым слова ўзяла сп-ня Анастасія Сергіеня. Яна напачатку распавяла пра свой жыцьцёвы шлях, што вучылася ў БДУ, была фатографам, тады прыехала вучыцца ў Лёндан, адкуль перабралася ў Злучаныя Штаты. Яе прываблівала кар’ера фільмовага рэжысэра і, наагул, творчыя заняткі. Выбірала для сябе навучальную ўстанову, спынілася на Нью-Ёрскай Фільмовай Акадэміі, вучылася паўтара месяцы, атрымала сэртыфікат. Часта для нашых людзей, што апынуліся ў складаных умовах, важна атрымаць нейкі сэртыфікуючы дакумэнт у сьціслы тэрмін і за невысокі кошт. Вельмі зручна, што ў ЗША амаль усё паступленьне і падаваньне дакумэнтаў адбываецца празь сеціва, нават у Лёндане такога не было. Ёсьць розныя прыёмы, як даць рады забараняльным сытуацыям, калі няма дазволу на працу або статус не адпавядае патрабаваным умовам. Анастасія прывяла прыклады са свайго асабістага досьведу. Яна таксама распавяла пра патрабаваньні пры паступленьні, і як здаць такія іспыты як TOEFL, і як падчас вучобы набраць высокі сярэдні бал GPA. Таксама было закранутае пытаньне перакладу дакумэнтаў зь Беларусі, як атрымаць адтуль адукацыйны транскрыпт (пералік здадзеных прадметаў у дадатку да дыплёма). Цікава, што калі Анастасія падавала на фільм-курс, у пераліку краінаў сьвету з выпадаючага мэню не было Беларусі, і таму, каб рухацца наперад, яна абрала Бэльгію краінай паходжаньня. Цікава, што звычайна ў адукацыйных установах усе пытаньні адпадаюць, калі згадваеш слова “адвакат”, і часта ліст ад яго вырашае ўсе праблемы. Анастасія таксама закранула пытаньне замежнага акцэнту і адзначыла, што для яе гэта было істотнай перашкодай у прасоўваньні па кар’ернай лесьвіцы, цяпер займала б больш высокую пасаду, каб размаўляла без акцэнту. Анастасія распавяла пра пасады на фільмовым сэце (у здымачнай групе), пачынаючы з production assistant, і што яе мэта на бліжэйшы час – зрабіцца асыстэнтам рэжысэра і зьняць свой уласны фільм, для пачатку кароткамэтражны. Гэта рэальная мажлівасьць, а таксама рэальны шлях у вялікае кіно, і прыклады ёсьць сярод беларусаў, як рэжысэрка Дар’я Жук. Анастасія Сергіеня плянуе зьняць свой фільм па матэрыялах досьведу іміграцкага жыцьця ў ЗША, сцэнар ужо складаецца з дапамогаю адмыслоўцаў. Як заўсёды ў такіх выпадках стаіць пытаньне фінансаваньня, але гэтая праблема вырашальная “хто стукае – таму адчыняюць”.



Потым сп-ня Ганна Шарко з мэтаю падбадзёрыць й актывізаваць увагі прысутных прапанавала кожнаму назваць сябе і сказаць адкуль прыехаў (прыехала), і дзе цяпер жыве. Потым, перакідваючы й ловячы мячык, прысутныя адказвалі на пытаньні, што тычыліся іх успрыняцьця Амэрыкі і досьведу тутэйшага жыцьця; “Самая дзіўная рэч або асоба, сустрэтыя тут”, “Чаго вам найбольш не хапае ў ЗША”, “З чым цяжка прымірыцца”, “У якім штате хацелі б жыць” і г. д. Ганна сказала пра сябе, што першае ўражаньне-ўспамін па прыезьдзе было, калі таксіст у аэрапорце прывітаў іх словамі “Welcome to hell!” Затым сп-ня Шарко

заканчэньне на бачыне 3

# У Чэхіі знойдзеныя тайныя архівы ўкраінскай эміграцыі

У дзень святкаваньня 100-годзьдзя Чэхаславацкай Рэспублікі, 28 кастрычніка летась, мне ўдалося знайсьці, выратаваць і ўзяць на захоўваньне таемны архіў ўкраінскай міжваеннай (1918-1939 гады), ваеннай (1939-1945 гады) і паваеннай (1945-1991 гады) эміграцыі ў Чэхаславаччыне і Францыі , які цягам 70 гадоў (пачынаючы ад 1948 года, калі ў Чэхаславаччыне пад націскам СССР быў усталяваны камуністычны рэжым) быў таемна схаваны ў адным з правінцыйных мястэчкаў недалёка ад Прагі.




***Запрашэнне Ўкраінскага акадэмічнага хору ў Празе і Беларускага саюза імя Францыска Скарыны на беларуска–ўкраінскі канцэрт 22 чэрвеня 1935 году (з архіва Алега Паўліва).***

Пагалоска аб знойдзеным мною архіве зацікавіла супрацоўнікаў пасольства Ўкраіны ў Чэскай Рэспубліцы і навуковых супрацоўнікаў Украінскага інстытуту нацыянальнай памяці, і 8 лістапада летась я быў запрошаны ў пасольства Ўкраіны ў Чэхіі для абмеркаваньня пытаньня навукова-дасьледчай рэалізацыі матэрыялаў і дакумэнтаў таемнага архіву (падрабязьней пра гэта ў часапісе “Парогі” (г. Прага (Чэхія) № 10, 2018 і ў газэце “Нацыя і Дзяржава” (г. Кіеў (Украіна) № 11, 2018).

Але асабліва мяне парадавала тое, што сярод матэрыялаў і дакумэнтаў архіву было таксама вельмі цікавае і гістарычна каштоўнае (на чэскай мове) запрашэньне Ўкраінскага акадэмічнага хору ў Празе і Беларускага саюзу імя Францыска Скарыны на беларуска-ўкраінскі канцэрт 22 чэрвеня 1935 году, якое зьяўляецца доказам дружалюбных беларуска-ўкраінскіх культурных адносінаў з даўніх перадваенных часоў, і я спадзяюся, што гэтыя сяброўскія адносіны будуць працягвацца і ў XXI стагодзьдзі, прыкладам якіх для мяне асабіста ёсьць сяброўскія ўкраінска-беларускія культурныя адносіны паміж украінскай дыяспарай у Чэхіі і беларускай дыяспарай у ЗША.

***Алег ПАЎЛІЎ***
***адмыслова для “Вестак і Паведамленьняў”, Прага***

# Лютаўскі сход “Пагоні”

***заканчэньне з бачыны 2***

распавяла пра свой досьвед паступленьня і навучаньня грамадзкім каледжы ў Нью-Ёрку. “Галоўнае – жаданьне вучыцца. Пачынайце, і ўсё астатняе прыйдзе”. Прамоўца распавяла пра сыстэму мясцовых грамадзкіх каледжаў і пра ўмовы паступленьня ў іх. У яе гэта быў Мангэтанскі грамадзкі каледж (Borough of Manhattan Community College, BMCC) у сыстэме гарадзкога каледжу Нью-Ёрку (CUNY). Там амаль бясплатна можна набыць 2-гадовую адукацыю або нават правучыцца год-паўтара і перавесьціся ў іншае месца. Чалавек сам падбірае сабе расклад, форму навучаньня, колькасьць гадзінаў на тыдзень, прафэсараў. Усе справы з паступленьнем можна залатвіць у Welcome admission center. Калі чалавек пражыў год у штаце Нью-Ёрк, ён ужо лічыцца жыхаром горада, а яны маюць таннейшыя кошты навучаньня. Наагул, у CUNY дапамагаюць нават нелегалам, “CUNY citizenship”, робяць усё насуперак Трампу. Пасьля Assessment test вызначаюць узровень, а наагул у BMCC прымаюць усіх. Яны адбудаваліся на фэдэральныя грошы, бо частка камусу пацярпела падчас тэрарыстычнай атакі 11 верасьня 2001 году. Ганна сказала, што вучоба была няцяжкая і прыемная, падабрала сабе належны рытм і рэжым. “Свой найвышэйшы сярэдні бал, 4.0 GPA, атрымала лёгка”. Паралельна яна працавала ў Office of Cultural and Special Events. Далейшы шлях вам дапамогуць выбраць у Career Center. У BMCC ёсьць таксама дапамога ў працэсе навучаньня – peer mentoring, tutoring. “Адмыслова навучаныя людзі сядзяць і чакаюць, што вы прыйдзеце да іх і папросіце дапамагчы, і яны з задавальненьем прафэсійна дапамогуць вам, патлумачаць”. Можна атрымаць страхоўку, картку на харчаваньне ў сталоўцы. Шмат фінансавых дапамогаў, грантаў. English Speaking Union вам дапаможа з удасканаленьнем ангельскай мовы. Потым Ганна перавялася ў Барух-калэдж, досыць прэстыжную ўстанову Нью-Ёрку з высокім конкурсам. “З 4.0 GPA праблемаў патрапіць туды не было”.

Сп. Крэмез дапоўніў аповед інфармацыяй пра паступленьне і вучобу ў John Jay College of Criminal Justice. Ён заклікаў прысутных настройвацца на атрыманьне адукацыі й кваліфікаванай працы: “Не марнуйце час на будоўлі або вадзячы тракі, адразу думайце пра стратэгічныя шляхі і найвышэйшыя дасягненьні. Амэрыка – краіна неабмежаваных магчымасьцяў”.

Затым, пасьля афіцыйнай часткі сходу, прысутныя маглі калегавацца пры сьціплых пачастунках зь землякамі і задаць свае пытаньні выступоўцам, што прамаўлялі на сходзе.

***Віталь ЗАЙКА***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## In God we trust

Магчыма, Амэрыка магла б жыць і бяз Бога, або зь нейкім сьвецкім субстытутам на ягоным месцы, але адназначна, што бяз Бога яе веліч ніколі б не была дасягнутая. Амэрыканцы разглядаюць рэлігію менш дагматычна і больш практычна. Бог з намі, таму мы жывем заможна і можам несьці нашае бачаньне сьвету ва ўсе закуткі плянэты, нават калі тубыльцы супраціўляюцца гэтаму сьвету са зброяй у руках.

Варта браць прыклад з амэрыканцаў і ставіцца да Бога практычней, бо за гэта прамаўляюць многія аргумэнты. Узяць хаця б псыхалягічны аспэкт. Прасьцей справіцца са штодзённымі клопатамі, калі чалавека мае надзейнае духоўнае апірышча, калі ёсьць да каго зьвярнуцца са сваімі праблемамі і згрызотамі, а не тады, калі чалавек вымушаны шукаць такое апірышча ў індывідуальным парадку. Праблемы маюць усе, нават атэісты. У царкву атэіст ня пойдзе, а пойдзе ў ёгу, мэдытацыю і іншыя шаманізмы. Такі субстытут павышанай рызыкі, якая не праверанная пакаленьнямі і вопытам продкаў.

Якая карціна сьвету прывабнейшая і рамантычнейшая: тая ў якой чалавек заканчвае сваё існаваньне ў таварыстве чарвякоў, ці тая ў якой ягоная душа працягвае жыць у вечнасьці?

А што наконт маральнасьці. У хрысьціяніна ёсьць гатовы кодэкс паводзінаў, якія ён засвойвае ў дзяцінстве. А атэіст, адрынуўшы ўсё гатовае, мусіць іх выпрацаваць сам. Па сутнасьці, ён кожны раз павінен вынаходзіць кола. Гэта пры ўмове, што ён зацікаўлены быць “добрым” чалавекам. Людзей з іншымі схільнасьцямі чакаюць пасткі ў форме сатанізму, кабалізму, масонства, альхіміі і таму падобнаму.

Вера не бывае нязьменнай. Яна дынамічная. У атэіста ўсё стабільней. І любому чалавеку, які схільны да разьвіцьця, гэта павінна перашкаджаць.




Насуперак угрунтаваным меркаваньням, вера не такая навязьлівая, як атэізм. Як ні дзіўна. Вернікі збольшага ходзяць у касьцёл, і калі яны не дзівакі, то па хатах сваю веру не прапагандуюць. А атэісты крычаць пра свае погляды пры кожнай магчымай нагодзе і без яе.

Кожны веруючы трохі мастак у душы. Ён сам стварае свой вобраз Бога. Каб пабачыць праявы Бога ў сваім жыцьці ён павінен умець уявіць яго, а гэта ўжо пэўная форма мастацтва. Атэіст наадварот. У яго Бога няма, уявіць чорны квадрат нашмат прасьцей.

Вернік заўсёды можа выбіраць: верыць у Бога, але ня верыць у царкву, бараніць царкву і кансэрватыўныя вартасьці, але сумнявацца ў існаваньні Бога, а бязбожніку няма паміж чым вагацца, хіба што паміж верай і атэізмам, але гэта таксама пэўная форма веры.

Рэлігія – гэта ня толькі Бог, гэта таксама пачуцьцё пэўнай супольнасьці, якая аб’ядноўваецца і бароніць сябе ў выпадку небясьпекі звонку. У палякаў, напрыклад, за ўсімі народнымі зрывамі заўсёды стаяў каталіцкі касьцёл, у беларусаў, наадварот, стаўляў іх па розныя бакі фронту. Так ці інакш у чалавека заўсёды ёсьць свая парафія, суседзі, аднавяскоўцы, або людзі з твайго раёну, якія раз на тыдзень сустракаюцца і перадаюць сабе “знак спакою”.

Атэісты вельмі любяць спасылацца ў сваіх абгрунтаваньнях на навуку і прагрэс. Маўляў, жывем у 21 ст. І што мы ведаем дзякуючы навуцы? Кожныя пяць гадоў мяняюцца погляды на ўплыў кавы і тлушчу на арганізм, ня кажучы ўжо пра складанейшыя матэрыі і пытаньні. Навука і прагрэс уводзяць нас у яшчэ большую бездань пытаньняў без адказаў, таму канца гісторыі, па Фукуяму, не прадбачыцца, так як і ня будзе канца рэлігіі. У сувязі з разьвіцьцём навукі і прагрэсу Бог нам будзе патрэбны ўсё больш і больш.

Таму будзьма як амэрыканцы. Будуйма свой байбл-бэлт.

***Віталь ВОРАНАЎ***

## Уплаты ў Згуртаваньне
### Складкі й ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| **І Акулаў** | **60** |
| **У. Аляксееў** | **60** |
| **В. Бурмака** | **60** |
| **Д. Дземчанка** | **60** |
| **К. Ельцова** | **60** |
| **Я. Завадзкая** | **60** |
| **В. Зайка** | **60** |
| **М. Івашчанка** | **60** |
| **З. Сілко** | **60** |
| **А. Сухоцкі** | **60** |
| **В. Чарняк** | **60** |
| **К. Шагун** | **60** |
| **А. Шоцік** | **60** |

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісчыкі “Вестак і Паведамленьняў” **В. Змушка, А. Талочка,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **9-га сакавіка 2019 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку ў Фэйсбуку **https://www.facebook.com/groups/13***

## Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| **І. Акулаў** | **30** |
| **У. Аляксееў** | **30** |
| **В. Бурмака** | **30** |
| **Д. Дземчанка** | **30** |
| **К. Ельцова** | **30** |
| **Я. Завадзкая** | **30** |
| **В. Зайцаў** | **30** |
| **М. Івашчанка** | **30** |
| **А. Крыж** | **30** |
| **В. Пятроў** | **30** |
| **Л. і П. Рыжыя** | **30** |
| **А. Сухоцкі** | **30** |
| **А. Цыбулька** | **30** |
| **В. Чарняк** | **30** |
| **К. Шагун** | **30** |
| **А. Шоцік** | **30** |
| **Д. Шкураценка** | **30** |

**Шчыры дзякуй!**